*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 38(475) 27 ВЕРАСНЯ 2000 г.

## Паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ

14 кастрычніка 2000 года ў памяшканні кінатэатра "Змена" (праезд з вакзала трамваем № 7 альбо метро да ст. "Плошча Перамогі", а адтуль на трамваі №№ 3,6,8) адбудзецца паседжанне Рэспубліканскай Рады імя Францішка Скарыны.

Пачатак а **14.00.**

Асноўнае пытанне парадку дня – прыняццё плану дзейнасці ТБМ на 2001 г. У звязку з гэтым чакаем ад Вас пісьмовых прапановаў.

Тых, хто яшчэ не атрымаў новыя сяброўскія пасведчанні, просім захапіць фатаздымак памерам 3х4 (альбо 4х6). Просім таксама не пакідаць працы ў пашырэнні падпіскі на "Наша слова",разам з тым даводзім, што 14 кастрычніка ў кінатэатры "Змена" адбудуцца яшчэ два мерапрыемствы, у якіх Вы можаце ўзяць чынны ўдзел.

1. Агульнабеларуская навуковая канферэнцыя "Беларуская тапаніміка. Гісторыя і сучаснасць". Пачатак а 10 гадзіне.

2. Вечарына з нагоды 60-ых угодкаў ад дня нараджэння (10.10.1940г.) выбітнага беларускага пісьменніка і гісторыка Кастуся Тарасава. Пачатак а 19 гадзіне.

Транспартныя выдаткі сплочвае Таварыства.

*Сакратарыят ТБМ.*

## Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа

**абвяшчае набор вучняў 7 класа на падрыхтоўчыя курсы**

Заняткі праводзяцца па беларускай мове, літаратуры, гісторыі Беларусі, замежных мовах, матэматыцы.

Пачатак заняткаў - з 1 кастрычніка, два разы на тыдзень з 16.30.

Тэлефон для даведак: 2261073.

Наш адрас: 220050, г. Менск, вул. Кірава. 21.

Беларуская мова-
ТБМ
наша будучыня

## Ахвяраванні на ТБМ

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Надзея Барт (Германія) | 20 $ |
| 2. | Суполка Рэфармацыя (Менск) | 20 $ |
| 3. | Раманчук Надзея Вёска Падбор'е Наваградскі р-н | 1 000 |
| 4. | Валянціна Ганчарова (Менск) | 500 |
| 5. | Супрацоўнікі кафедры гісторыі беларускай мовы БДУ (чэрвень месяц, Менск) | 10.000 |
| 6. | Інжынер Ю.Ф. (Менск) | 25.000 |
| 7. | Чэчат Алесь (Менск) | 3.000 |
| 8. | Удзельнікі літаратурных чытанняў у Менску 5 верасня | 2.372 |
| 9. | Галай Аркадзь (Менск) | 1.000 |
| 10. | Кавалёва Тамара (Менск) | 1.000 |
| 11. | Казлоўская І.І. (Менск) | 500 |

Дзейнасць Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны па наданні роднай мове рэальнага статуса дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ - справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13 г.Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

## Акадэмічнаму тэатру імя Янкі Купалы – 80 гадоў

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны шчыра віншуе купалаўцаў з 80-ымі ўгодкамі ад дня заснавання тэатру.

Праз віхуры і завеі ХХ стагоддзя цягам усяго часу свайго існавання купалаўцы з годнасцю неслі ў грамадства жывое беларускае слова, не апускалі галавы долу нават у самыя трагічныя часы нашае агульнае гісторыі, натхнялі сваім запалам тысячы і тысячы беларусаў, як змагароў за незалежнасць нашае Бацькаўшчыны, гэтак і простых грамадзянаў. Дастаткова ўзгадаць неўміручую купалаўскую "Паўлінку"" "Тутэйшых"" ці апошнюю пастаноўку па п'есе Дударава "Князь Вітаўт", каб пераканацца ў гэтым.

З нагоды з 80-ых угодкаў Таварыства зычыць творчай трупе тэатра і надалей быць авангардам тэатральнага мастацтва Беларусі ды заўжды адгукацца на найбольш важкія падзеі грамадскага жыцця нашай краіны.

**Сакратарыят ТБМ.**


Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія Рэспублікі Беларусь
Национальная государственная телерадиокомпания Республики Беларусь

**Старшыні ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" А.А.Трусаву**

Паважаны Алег Анатольевіч!

У сувязі з Вашым пісьмом ад 9 жніўня інфармуем Вас, што ў новай сетцы вяшчання Белтэлерадыёкампаніі прадугледжвае (акрамя традыцыйных праграм на беларускай мове) новыя праграмы – аналагічныя сацыяльнай рэкламе. Гэтыя праекты прадугледжваюць, магчыма на конкурснай аснове, падрыхтоўку і прапанову тэлегледачам сюжэтаў і рэпартажаў пра гісторыю Беларусі, а таксама больш дэталёвую гаворку аб праблемах сучаснай літаратурнай і гутарковай беларускай мовы, у тым ліку аб забруджванні яе шматлікімі сурагатамі рознага іншамоўнага паходжання.

Вашы заўвагі наконт мовы вядучых тэлепраграм сведчаць аб Вашай увазе да перадач Беларускага тэлебачання і пераконваюць нас у тым, што і Вы звярнулі ўвагу на нізкую якасць моўнай падрыхтоўкі выпускнікоў вышэйшых навучальных устаноў Беларусі (у эфіры Белтэлерадыёкампаніі працуе пераважна моладзь). Спадзяёмся, што Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" у асобе яго аддзяленняў у вышэйшых навучальных установах прыцягне ўвагу іх кіраўнікоў, выкладчыкаў беларускай мовы да вострай патрэбы ў журналістах і настаўніках, якія ўзорна гавораць па-беларуску.

Для Вас, паважаны Алег Анатольевіч, пэўна не сакрэт, што выпускнікоў вышэйшых навучальных устаноў, а цяпер ужо вядучых тэле- і радыёпраграм, мы вымушаны адвучваць ад упамянёнай у Вашым пісьме "трасянкі" на Курсах павышэння кваліфікацыі Белтэлерадыёкампаніі, запрашаем на курсы высокакваліфікаваных выкладчыкаў беларускай мовы, плоцім ім грошы, якіх не стае дастаткова для стварэння такіх праграм, як "Гаворым па-беларуску" і іншых.

Што да слова "губернатар", то на наш погляд, у стылістычна-лінгвістычным значэнні яго ўжыванне не пярэчыць нормам беларускай літаратурнай мовы і шырока ўжываецца ў гутарковай. У афіцыйнай лексіцы інфармацыйных праграм Беларускага тэлебачання і Беларускага радыё ўжываецца словаспалучэнне "старшыня абласного выканаўчага камітэта".

У сувязі ж з тым, што Беларусь знаходзіцца ў інфармацыйным полі многіх замежных тэле- і радыёстанцый. Вы можаце звярнуцца да іх кіраўніцтва адносна ўжывання слова "губернатар".

З павагай.

**Старшыня Белтэлерадыёкампаніі В. В. Чыкін.**

## *Беларускія СМІ пра беларускую мову*

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

Сваімі спрэс рускамоўнымі выступленнямі па радыё, тэлебачанні, на ўсялякіх нарадах і паседжаннях беларускія палітыкі і чыноўнікі розных рангаў дэманстратыўна даводзяць народу, якая мова ў нас мае перспектыву.

**Мікола Кутнявецкі,"Народная воля", 9.08.2000г.**

*Наведваючы могілкі ў замежжы, абавязкова сустрэнеш сярод помнікаў з лацінскім шрыфтам і славянскі надпіс. Цяжка перадаць пачуцці пры сустрэчы надпісу па-беларуску. Міжволі спынішся, прачытаеш, памянеш спачувальным словам суайчынніка. Я не буду нагадваць могілкі Парыжа, Прагі, Варшавы ці іншых гарадоў замежжа, а спыняюся на сваіх...*

*... Памятаю, з якой цяжкасцю давялося ўстанаўліваць помнік на магіле цешчы з надпісам па-беларуску. Цяжкасці з'явіліся не пры заказе ў майстэрні, і па іх словах, ім ўсё роўна на якой мове выконваць, але ж узоры яны спакусліва дэманструюць на рускай.*

***Мікола Лавіцкі, "Народная воля" 30.08.2000г.***

Але й галава прэсавага дэсанту ў Сыднэі – Уладзімір Навіцкі – даўно ўжо зьдзекуецца з роднай мовы, амаль кожны выхад у эфір аздабляючы сваім улюбёным "дасі" трэцяй асобе будучага часу. Спадар Навіцкі, трэцяя асоба дзеяслова даць – дасьць!

**Богусь Бітлянёнак,**
**"Наша Ніва" № 37 11.09.2000г.**

*Калі сядзіш на падмурках Марцінкевічавага дому, каля вялізнага, карэннага пня, што застаўся ад пісьменнікавай ліпы й аглядаеш наваколле, такімі далёкімі й дробнымі выглядаюць нашыя сённяшнія праблемы. усе гэтыя лукашэнкі, абсе, кангрэсы – хартыі. І ўсё астатняе, што пройдзе – прамільне, а тут па-ранейшаму будзе ўсё той жа ідэальны беларускі краявід. Агучаны крыкамі пеўня, сьмехам хлопчыкаў, што ловяць рыбу ў Люцыне, і ідэальнаю моваю. Не літаратурнаю, а жывою.*

***Зміцер Бортосік,***
***"Наша Ніва" 4.09.2000г.***

Дый мне няма чаго дзяліць з Міністэрствам. Буду працаваць на матчынай мове, ставіць добрыя спектаклі.

**Валеры Анісенка,**
**мастацкі кіраўнік "Вольнай сцэны",**
**"Народная воля" 16.09.2000 г.**

*Руская мова ў СССР стала ідэалагічным атрыбутам камуністычнай "тэорыі" зліцця моў (гэта значыць русіфікацыі). Расійская была аб'яўлена "агульначалавечай" мовай будучага камуністычнага грамадства, моваю так званага "савецкага народа", як новай імперскай агульнасці людзей, створанай якой займаліся рускія камуністы. Русіфікацыя ў СССР паслядоўна праводзілася і кантралявалася КПСС...*

*... Будаўнік камунізму не мог гаварыць па-беларуску. Гэта не ўхвалялася і пераследавалася камуністамі.*

***Зянон Пазняк,***
***"Народная воля" 15.09.2000 г.***

## Падпіска на "Наша слова"

**Па выніках падпіснай кампаніі на трэці квартал 2000 г. 22 раённыя бібліятэкі краіны не здолелі падпісаць ніводнага асобніка газеты "Наша слова". Сакратарыят ТБМ за сродкі ахвярадаўцаў і па ўласнай ініцыятыве падпісаў раённыя бібліятэкі Жабінкі, Іванава, Маларыты, Мсціслава, Верхнядзвінска, Лiёзна, Лепеля, Расонаў, Крупак, Буда-Кашалёва, Кармы, Лоева, Нароўлі, Хойнікаў, Чачэрска, Дрыбіна, Кіраўска, Клічава, Краснаполля, Крычава, Хоцімска, Чавусаў на апошні квартал 2000 г., а таксама адну з вясковых школ Акцябрскага р-на.**

***Сакратарыят.***





# “Адродзімся душою”

У наш час даводзіцца канстатаваць той факт, што замоўчванне нацыянальнага пытання ў большасці сродкаў масавай інфармацыі, абыякавасць да праблемы пашырэння сфер існавання роднай мовы, адсутнасць у большасці насельніцтва клопату аб зберажэнні духоўнага скарбу нацыі, які закадзіраваны ў мове, - дае падставы гаварыць аб тым, што роднае слова зноў, як тая рыбіна на сушы, моўчкі задыхаецца, гіне. Я маю на ўвазе тую мову, якая, перш за ўсё, абслугоўвае такі бок чалавечай псіхікі, як нацыянальная годнасць, свядомасць і нацыянальны гонар. Вось чаму задача ўсіх людзей, чый лёс звязаны з родным словам, звярнуць увагу менавіта на гэты аспект існавання нацыянальнай мовы. Трэба выхоўваць сродкамі роднай мовы нацыянальную душу. Што і робім мы, настаўнікі. Як жа рабіць гэта? Па-першае, гэтая душа павінна ўвабраць у сябе шмат станоўчых эмоцый, многае адчуць, па-другое, заглыбіцца ў гістарычнае мінулае свайго народа, па-трэцяе, шмат ведаць пра культуру нацыі. Не сакрэт, што гэтую працу вынікова змогуць весці тыя, хто сам апантаны нацыянальнай ідэяй. З гэтай мэтай і пачаў у СШ № 10 г. Слоніма дзейнічаць клуб “Спадчына”, аб’яднаўшы педагогаў і школьнікаў, адданых нацыянальнай духоўнай спадчыне. Сваю працу аб’яднанне будуе пад уплывам ідэй нацыянальнага адраджэння, распрацаваных дацэнтам Гарадзенскага універсітэта Мельнікавым М.А. Ён і з’яўляецца ідэйным натхніцелем нашага аб’яднання. Галоўная задача клуба – выхаванне павагі да роднай мовы і беларускага народа, гонару за яго культуру, багатую духоўную спадчыну і яе дзеячоў.

У клуб уваходзяць 4 гурткі: фальклёрны гурт “Крынічка”, драматычны “Купалінка”, гісторыка-краязнаўчы і літаратурнай творчасці “Ветразь надзеі”. Фальклёрны гурток узначальвае выдатнік асветы настаўніца музыкі і спеваў Густыр М. І. Гэта адзін са старэйшых калектываў школы. Ён ажыццявіў пастаноўку такіх абрадаў, як “Гуканне вясны”, “Беларускае вяселле”, “Каляды” і інш. У выкананні артыстаў, вучняў школы, ажываюць сцэны народных свят, абрадаў, гучаць песні, якія прымушаюць душу кожнага беларуса напоўніцца, перш за ўсё, настальгіяй па тым цудзе, які завецца народнай спадчынай. Гэтая настальгія і штурхае чалавека да пошукаў шляхоў наталення душы роднай матчынай песняй, мовай. Абрады фальклёрнага гурта і вяртаюць душы гістарычную памяць, тую повязь пакаленняў, якая абарвалася, калі культура нацыі стала адкідвацца, як непатрэбная рэч. Каб душа чалавека адкрылася да свайго роднага, трэба, як электрычным зарадам, разбудзіць яе любоўю, любасцю, замілаваннем, каб душа захлынулася ад любові, плакала ад пакуты, любіла да слёз. Фальклёрны гурт “Крынічка” ўмее растрывожыць душу беларуса, навучыць спраўляць абрады, як гэта рабілі дзяды. Навучыць – гэта прымусіць палюбіць, бо чалавек не любіць таго, чаго не ведае. Кіраўнік фальклёрнага гуртка Густыр М. І. сама закаханая ў родныя звычаі і традыцыі, яна падбірае рэпертуар песень, прыдзірліва кантралюе, каб усе дзеянні абрадаў былі захаваныя, каб удзельнікі выконвалі іх на высокім узроўні. І гэта дае добрыя вынікі. Гледачы ўдзячныя гуртокоўцам за свята душы, якое яны дораць прысутным.

Функцыі драматычнага калектыву “Купалінка”, якім кіруе настаўніца беларускай мовы Мазур Т. М., узнагароджаная Граматай Міністэрства асветы, заключаецца ў тым, што вучні сродкамі выразнага слова павінны данесці абрады народа да гледачоў, закрануўшы глыбокія струны чалавечай душы, падарыўшы ім маляўнічае свята, стварыўшы ў ёй прывабны свет, свой прытульны куточак – светлы абразок Бацькаўшчыны. Вось чаму шчыруюць і дзеці і настаўніца. Яны любоўна падбіраюць дэкарацыі: нясуць у школу посцілкі, ручнікі, гліняныя вырабы, створаныя народнымі ўмельцамі; падбіраюць сабе касцюмы, спрабуюць свае сілы ў якасці артыстаў і рэжысёраў-пастаноўшчыкаў. І гэта вельмі падабаецца вучням 8 “А” класа Мальцаву Сямёну, Петрушэнцы Вользе, Армушэвіч Кацярыне і інш.

Гісторыка-краязнаўчую работу клуба ўзначальвае патрыёт роднага беларускага слова настаўнік рускай мовы выдатнік асветы Карповіч І.І., які піша вершы толькі па-беларуску, бо інакш не пішацца. Гэта сведчыць аб тым, што родная мова мацней за іншую хвалюе душу настаўніка, які з’яўляецца загадчыкам школьнага гістарычнага музея і бачыць галоўную сваю задачу ў тым, каб адраджаць гістарычную памяць вучнёўскай моладзі. З гэтай мэтай падрыхтаваныя экскурсаводы з вучняў, якія знаёмяць прысутных з беларускай гісторыяй, у прыватнасці, з гісторыяй роднага горада, з людзьмі Слонімшчыны, якія з’яўляюцца нацыянальнымі героямі, гонарам Бацькаўшчыны. Гэта паэты і грамадскія дзеячы краю. Музей арганізоўвае сустрэчы з цікавымі людзьмі, паездкі па знакамітых мясцінах Бацькаўшчыны. Усё гэта выхоўвае гонар за свой край, яго герояў, абуджае цікавасць да гісторыі роднай Беларусі.

Гурток літаратурнай творчасці “Ветразь надзеі”, якім кіруе настаўніца вышэйшай катэгорыі Трафімчык Т.У., сваю задачу па нацыянальным адраджэнні бачыць у тым, каб выхоўваць нацыянальную самасвядомасць праз вучнёўскую паэтычную творчасць. Паэтычны гурток адкрывае вуням прыгожасць бачання свету праз творчае натхненне, якое можа быць выклікана толькі адным пачуццём – пачуццём любові. Самае святое пачуццё замілаванне – гэта пачуццё любові да Радзімы, яе прыроды, яе народа. Вось чаму гэтыя тэмы сталі асноўнымі для творчасці дзяцей. Любоў да Бацькаўшчыны, сапраўдная, шчырая, моцная, змяняе душу чалавека. Вучань 7 класа Сцяцэнка Тарас так піша пра такія змены ў душы:

*Прыгожасць не ў твары,*
*Прыгожасць у сэрцы,*
*Хай лятаюць мары*
*У душы – люстэрку.*

Клопатамі гуртка літаратунай творчасці “Ветразь надзеі” развіваецца эстэтычная пазіцыя вучняў – імкненне захапляцца Бацькаўшчынай, яе прыродай. Для гэтага гурток арганізоўвае сустрэчы з захопленымі Радзімай людзьмі, з апантанымі беларускасцю асобамі. Пасля такіх сустрэч эмацыянальнае ўзрушэнне перадаецца вучнямі праз паэтычнае слова, ствараючы вобразны малюнак Айчыны. Гэтая праца робіцца з адной мэтай – стварыць свята для душы, свята любові, што і з’яўляецца крыніцай творчасці. Пра любоў да Бацькаўшчыны, якая нагадвае крынічку, што выцякае з дзіцячага сэрца рэчкай любові і поіць душы многіх вучняў, пра гэта верш “Крыніца”, напісаны ў гуртку Сцяцэнка Тарасам:

***Імчыць у даль лагодна між вёсак крыніца,***
***Бурліць і пяе залатая вадзіца,***
***Усе людзі гавораць, тут месца святое,***
***А ў ноч на Купалле яно залатое.***
***Стаяць берагамі старыя крыжы,***
***І чуйна галосяць над імі стрыжы.***
***Кажнюткі дзянёк паглядзець у люстэрка***
***Бяжыць з бліжняй фёскі хлапчына Валерка.***
***А сэрца крыніцы любоўю жыве,***
***І конікі гучна цвыркочуць у траве.***
***Пяшчотна крыніца душу абаўе,***
***З сабою напасці усе панясе.***

Вось так, як гэтая крыніца, павінна бурліць і залаціцца ў душах нашых дзяцей шчырая любоў да Бацькаўшчыны, якую можна назваць “золатам” душы чалавечай асобы, бо гэтая любоў дапаможа дзіцяці выстаяць, не зламацца ў наш час, час насілля і гвалту, які сыплецца на кволыя душы дзетак з тэлеэкранаў і які ідзе ад жорсткага прагматычнага жыцця. Нам так не хапае зараз любові. Адкінуўшы духоўную спадчыну нацыі, мы адкінем ад нашых дзетак любоў. Душа ж павінна любіць, інакш яна будзе ненавідзець. Дык давайце вучыць любові так, як гэта робіцца ў людзей: любові да мовы, да народа, да роднай зямлі. А каб гэтая любой праходзіла праз душу, трэба выхоўваць на нацыянальных асновах. Іншага шляху няма, калі мы хочам шчасця нашым дзецям. Шчаслівы той хто любіць: такому чалавеку адкрываецца рай на зямлі. Пра гэта піша вучаніца 7 класа Трубіла Юля:

*Прыгожа наша Беларусь,*
*Буслянка мараў і надзеяў,*
*Зялёны май,*
*Як у небе рай...*

Адрадзіцца душою – гэта зрабіць душу жывою, любячай, а да гэтага адзін шлях – шлях да маці-Беларусі.

***Настаўніца СШ № 10, старшыня гарадской суполкі ТБМ г. Слоніма***
***ТРАФІМЧЫК Т. У.***

# Аповесць пра словы

## АПТЭКА, МАСАЖ, ГРЫП

Слова ***аптэка*** паходзіць ад лацінскага ***“апатэка” – склад.*** Першая аптэка адкрылася ў Багдадзе ў 754 г., а ў Расіі – пры Іване Жахлівым у 1581 г. (так званая царская аптэка). Некалькі пазней сталі дзейнічаць аптэкі і для простага люду (маскатэльныя крамы). З канца XУIII ст. самай буйной у Еўропе была адна з маскоўскіх аптэк, якая захавалася да нашага часу.

Адны лічаць, што слова ***масаж*** паходзіць ад французскага ***“масагэ” – расціраць***, другія – што ад арабскага ***“мас” – сціскаць рукамі.*** Упершыню ручны масаж узнік у Кітаі, больш чым 10 тысяч гадоў таму. А на Русі вядомы лячэбны масаж цела венікам.

Лічылася, што слова ***грып*** паходзіць ад французскага ***“грыпе” – хапаць.*** Аднак нямецкі мовазнаўца А. Бах устанавіў, што яно ўтварылася ад славянскага ***хрип.*** Дарэчы, у сучаснай мове ёсць слова, падобнае па гучанні да ***хрып***, якое азначае ***‘хрыпы ў радыё’.*** Грып – вострая вірусная хвароба, галоўныя рысы якой – запаленне дыхальных шляхоў і гарачка.

## АТЭСТАТ, ДЫПЛОМ, КАНІКУЛЫ

Лацінскае ***“атэстара”*** – сведчыць, быць сведкай. Адсюль ***атэстат***, што ў перакладзе азначае: пасведчанне, афіцыяльны дакумент аб заканчэнні навучальнай установы, прысваенні вучонага звання і інш.

Слова ***дыплом*** ад грэчаскага ***“дыплома” – складзеная напалам грамата***: пазней – пасведчанне пра званне, адукацыю, майстэрства, высокую якасць і г.д.

Рымляне словам ***“канікула”*** (лацінскае ***“каніс” – сабака***) называлі сузор’е Вялікага Сабакі. Так яны называлі і час, калі Сонца пры сваім руху знаходзілася ў гэтым сузор’і (з 22 ліпеня па 23 жніўня) – самыя гарачыя дні лета. На гэты час аб’яўляўся перапынак у занятках. Адсюль і назва ***канікулы.***

## БАРАЛЬ, ЛІТР, МЕТР

***Бараль*** (англійскае ***“барал”*** – бочка) – мера ёмістасці, аб’ёму розных сыпкіх і вадкіх рэчываў у некаторых краінах. Калі гавораць проста ***бараль***, то маюць на ўвазе аб’ём, які раўняецца прыкладна 182 л. Аднак калі гаворка заходзіць пра піва, то карыстаюцца выразам ***піўны бараль*** (прыкладна 164 л), калі аб нафце – бараль нафты (159). Ёсць таксама бараль мыла (116 кг), свініны (91) і інш.

Слова ***літр*** паходзіць ад імя французскага вынаходніка вінных бутэлек Клода-Эміля-Жана-Бацiста Літра. Гэта ён упершыню выпусціў градуіраваныя шкляныя цыліндры і пачаў рабіць лабараторны посуд. Менавіта ён прапанаваў вымяраць аб’ём, вызначаючы масу вадкасці, якая ўтрымліваецца ў літры. Аднак да яго прапановы прыслухаліся толькі пасля смерці вынаходніка. У якасці стандартнай вадкасці была абрана вада (1 л – мера ў ўмяшчальнасці, роўная аб’ёму 1 кг вады пры тэмпературы 4 град. С ). Зараз гэта адзінка вымярэння аб’ёму і ёмістасці, роўная 1000 см3, пасудзіна такой ёмістасці.

За адзінку даўжыні ***метр*** (грэчаскае ***“метрон” – мера***) прынята дзесяцімільённая частка чвэрці зямнога мерыдыяна. Метрычная сістэма мер устаноўлена ў Францыі ў 1791 г. А ў 1799 г. тут стварылі плацінавы эталон метра і аддалі яго на захаванне ў архіў рэспублікі. Міжнародны характар новая сістэма вымярэнняў набыла ў 1875 г., калі 17 краін, у тым ліку і Расія, падпісалі Метрычную канвенцыю.

## БІС, БРАВА, АВАЦЫЯ

У беларускай мове ***біс*** і ***брава*** – словы “чужаземцы”. Французскае ***“біс”*** узыходзіць да лацінскага ***“біс!”*** – двойчы, два разы, і азначае выгук, якім просяць артыста паўтарыць толькі што выкананы ім нумар праграмы.

Італьянскае ***“брава”*** ўзнікла ў якасці выгуку адабрэння (у оперы). Так што па сваім паходжанні яно нагадвае наша футбольнае ***“малайцы”*** і азначае захапленне, пахвалу, адабрэнне. Дарэчы, лацінскае слова ***“опера”*** мае значэнне ***‘твор’.***

***Авацыя*** (лацінскае ***“авацыа” – радасць, весялосць***) – бурныя, працяглыя апладысменты, якія суправаджаюцца радаснымі воклічамі, з выпадку адабрэння чаго-небудзь або прывітання каго-небудзь.

## ВАКЗАЛ, СТАНЦЫЯ

У XУII ст. каля Лондана на беразе Тэмзы дзейнічаў забаўлівы парк, а непадалёк знаходзіўся шынок, які належаў удаве па прозвішчы ***Ваксхал.*** Гэтым словам хутка сталі называць і сад. Такія ж з’явіліся і ў іншых гарадах Еўропы, у тым ліку і ў г. Паўлаўску (паблізу імператарскага палаца). Сад па прыкладзе лонданскага сталі называць ***вакзалам.*** Калі ж пабудавалі чыгунку з Пецярбурга да Паўлаўска, канцавы прыпынак таксама назвалі ***вакзалам.*** А потым так сталі называць усе пабудовы станцый.

Станцыя зараз звычайнае беларускае слова. Аднак яшчэ ў старажытнасці шырока ўжывалася лексема ***стацiа***, крыніцай для якой з’явілася лацінскае ***“стацiа” – стаянка.*** Пазней у старапольскай мове ***“стацiа”*** замацавалася ў значэнні ***‘павіннасць утрымання каралеўскага двара і войска’.*** А адтуль яно запазычана старабеларускай мовай. Слова ж ***станцыя*** ўпершыню адзначаецца ў беларускіх дзелавых помніках у другой палове XУII ст. са значэннямі ***‘прыпынак’, ‘кватэра’, ‘кватараванне’.***

## ВАФЛЯ, БІСКВІТ

Слова ***вафля*** запазычана з нямецкага ***“вабе”***, якое на мове пчалаводаў азначае ячэйку ў пчаліных сотах. Адрозніваюцца вафлі ад іншага сухога пячэння менавіта сваім узорам у клетачку на паверхні, які і сапраўды нагадвае соты. Гэтым і тлумачыцца іх назва.

***Бісквіт*** – назва здобнага пячэння. Французскі тэрмін ***“біскуіт”*** паходзіць ад лацінскага ***“біс коктус”*** – двойчы печаны, смажаны, абсмажаны. Бісквіт – пульхнае высокакаларыйнае печыва з цеста, у якое пакладзена многа жаўткоў і бялковай пены.

## ВІНЕГРЭТ, ВІТАМІН

Па-французску ***“вінаігрэтэ”*** – падліва з воцатам. Вінегрэт – халодная страва з дробна нарэзанай агароднiны, запраўленая воцатам, алеем і іншымі прыправамі. А ў пераносным сэнсе – сумесь розных паняццяў.

Слова ***вітамін*** паходзіць ад лацінскага ***“віта” – жыццё*** і назвы хімічнага элемента ***“амін”*** – скарочанае ад ***“аміяк”*** (бясколерны газ). Літаральна: рэчыва, неабходнае для жыцця. А заснавальнікамі навукі аб вітамінах з’яўляюцца рускі ўрач М.І. Лунін (1880) і польскі біяхімік К. Функ (1912). Апошні ўвёў і сам тэрмін.

## ЖАЛЕЙКА, ГУСЛІ, САКСАФОН, БАРАБАН

***Жалейка*** – уласнабеларускае слова ад ***жаль.*** Назва дадзена па характару гуку, якім вызначаўся гэты народны інструмент. З 2-й паловы XIX ст. жалейка інтэнсіўна выцясняецца кларнетам (лацінскае ***“кларус” – ясны гук***).

***Гуслі*** – агульнаславянскае слова з праславянскага ***“гондслі”***, якое звязана з дзеясловам ***гудзець.*** Само слова ***гудзець*** у некаторых мовах захавала значэнне ***“іграць”*** (чэшскае ***“гудба” – музыка,*** рускае ***“гудошник”***). Мяркуюць таксама, што слова паходзіць ад санскрыцкага кораня ***“гу”***, звязанага з паняццем гучання наогул. У рускай літаратуры слова ***“гуслі”*** сустракаецца з XI ст.; упамінаюцца гуслі і ў “Словах” К. Тураўскага (XIIст.).

У назве музычнага інструмента ***саксафон*** гучыць імя яго стваральніка – бельгійца А.Сакса. Другая састаўная частка слова – ад грэчаскага ***“фоне”***, якое азначае гук.

Слова ***барабан*** паходзіць ад ***“балабан”***. ***“дарабан”.*** Так у цюркскіх мовах называецца гэты музычны інструмент. А слова ***“дарабанчы”*** азначала таго, хто іграе на ім. Найбольш ранняе сведчанне існавання барабана на Беларусі адносіцца да XII ст. (шахматная фігурка ў выглядзе барабаншчыка з Ваўкавыска).

***Іван ШПАДАРУК,***
***член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій.***





# Год працы Кніжнага клуба ТБМ

Сёлетнім ліпенем мінуў год ад распачатку працы Кніжнага клуба Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Пэўна, варта згадаць, чым гэты год быў для клуба і як ягоны карабель пачуваўся на хвалях прамінулага часу свайго існавання.

А спачатку... Спаемства.

Спаемства – гэта сяброўскае кола тых, хто жыве ў беларушчыне, каму мова і культура роднай зямлі даюць смак жыцця. Створанае глыбокім чалавекам, псіхолагам паводле прафесіі – Сяргеем Язерскім, Спаемства сталася і ёсць па сёння крыніцай адкрыцця духовых скарбаў, дыскусіяў, святаў па народным звычаі, вандровак.

Кніжны клуб ТБМ распачаўся са Спаемства, з ягоных абмеркаванняў кніжных навінак ды літаратурных адкрыццяў. Мэта клуба акрэслілася ад пачатку – пашырэнне беларускай кніжнасці.

І вось ужо сёння бачны плён гадовай гісторыі жыцця. Што атрымалася – мяркуйце самі.

Адным з важнейшых гадавых набыткаў Кніжнага клуба ТБМ сталася стварэнне у верасні 1999 г. бібліятэкі рарытэтных кніг беларускай тэматыкі на розных мовах свету.

Сабраны сёння ў бібліятэцы кнігазбор – унікальны. Тут і кнігі пачатку стагоддзя з фондаў знакамітай Беларускай гімназіі ў Вільні, ахвяраваныя зычліўцам ТБМ, які пажадаў застацца невядомым. Тут і менскія выданні 20-ых гадоў, атрыманыя дзякуючы клопату ўжо называнага Сяргея Язерскага (у тым ліку Купалавы зборнік "Беззназоўнае" з даўнімі пазнакамі і аўтографамі, якія чакаюць свайго даследчыка).

Тут і кнігі з асабістай бібліятэкі былога дырэктара выдавецтва "Мастацкая літаратура" Міхала Дубянецкага, падараваныя ягонай сям'ёй (менавіта дзякуючы гэтаму легендарнаму чалавеку праз усе савецкія церні дайшла да чытача аповесць Васіля Быкава "Мёртвым не баліць"). Трэба зазначыць, што сябрамі Кніжнага клуба ТБМ быў зроблены спецыяльны штампік – "З кнігазбору Міхала Дубянецкага" – для каталізацыі гэтых кніг асобным фондам, у якім – першая карэктура аповесці Васіля Быкава "Знак бяды", выданні з аўтографамі Міколы Улашчыка, Фёдара Янкоўскага.

Дзесяткі каштоўных выданняў падараваныя бібліятэцы Кніжнага клуба ТБМ аўтарам кніжных бэстсэлераў Уладзімірам Арловым, у тым ліку, вельмі рэдкая кніга паэзіі Алеся Салаўя з аўтографам 1944 года. Каля сотні кніг беларускай тэматыкі на розных мовах свету даслаў Кіраўнік Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку Вітаўт Кіпель. Творы Янкі Купалы і Якуба Коласа, выдадзеныя ў 50-ых гадах у Мюнхене, падаравала інфармацыйная кампанія БелаПАН, кнігі "Залатой серыі" (тамы: Беларускія летапісы, Вацлаў Ластоўскі, Уладзімір Жылка, Кастусь Каліноўскі, Ян Баршчэўскі ды інш.) – выдавецтва "Беларускі кнігазбор".

Агулам, за мінулыя дзесяць месяцаў, у бібліятэчку Кніжнага клуба ТБМ паступіла каля тысячы кніг беларускай тэматыкі, выдаваных на працягу стагоддзя ў Менску і Вільні, Беластоку і Нью-Ёрку, Мюнхене і Маскве... Шчыра дзякуем усім, хто спрычыніўся да папаўнення фондаў бібліятэкі Кніжнага клуба ТБМ!

З электронным каталогам кніг бібліятэкі, створаным сябрамі ТБМ Алесем Стральцовым і Таццянай Вабішчэвіч, можна азнаёміцца на Інтэрнэт-старонцы Таварыства беларускай мовы: http:tdm/org.by

Чытачом бібліятэкі можа стаць кожны сябар, альбо проста зычлівец ТБМ. Для ахвотных – час працы бібліятэкі:

**Панядзелак з 15.00 да 17.00.**

**Чацвер з 15.00 да 17.00.**

**Нядзеля з 15.00 да 17.00. (Заўвага: улетку бібліятэка працуе толькі па панядзелках і чацвяргах).**

Адрас бібліятэкі: 220005 Менск, Румянцава, 13, тэл. 284-85-11.

Апрача бібліятэкі ў традыцыйным разуменні, Кніжным клубам ТБМ была закладзена яшчэ адна бібліятэка – у Інтэрнэце. А распачала Інтэрнэт-бібліятэчку новая кніга паэзіі Людкі Сільновай – "Зеленавокія воі і іх прыгажуні", якая ўбачыла свет у электронным, інтэрнэтаўскім варыянце дзякуючы сябру Кніжнага клуба Сержуку Старавойтаву і зараз даступная для чытачоў на Інтэрнэт-старонцы Таварыства беларускай мовы па пададзеным вышэй адрасе.

Недалёкім часам Інтэрнэт-бібліятэчка Кніжнага клуба ТБМ будзе папоўненая новымі кнігамі: зборнікам паэзіі Эдуарда Акуліна і Альманахам беларускай паэзіі і прозы мінулага стагоддзя – "XIX стагоддзе" (гэты альманах, укладзены аўтарытэтным даследчыкам Міколам Хаўстовічам, без перабольшання можна назваць сенсацыйным; дзякуючы яму да нас вяртаюцца творы тых беларускіх пісьменнікаў, якія ў XIX стагоддзі ў сваёй творчасці мусілі карыстацца польскай мовай, ці, дакладней, яе мясцовым, "ліцвінскім" варыянтам).

Другім важным кірункам працы Кніжнага клуба сталася арганізацыя шматлікіх аднадзённых культурных акцыяў у рэчышчы акрэсленай мэты пашырэння беларускай кніжнасці. У справе арганізацыі выставаў, сустрэч з пісьменнікамі, гісторыкамі, перакладчыкамі, бардамі, у справе арганізацыі вандровак было наладжанае плённае супрацоўніцтва з бібліятэкамі, музеямі, кнігарнямі, навучальнымі ўстановамі, дзяржаўнымі і недзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі (інфармацыйная падтрымка), царквоі і касцёлам.

Так, сумесна з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі Кніжным клубам ТБМ была праведзеная аднадзённая выстава рарытэтнай кнігі. Наведнікі выставы змаглі ўбачыць арыгінальныя выданні Францішка Скарыны, братоў Мамонічаў, Статуту Вялікага Княства Літоўскага, арыгінал "Мужыцкай праўды" Кастуся Каліноўскага, кнігі з аўтографамі вядомых пісьменнікаў і даследчыкаў XIX-XX стагоддзяў.

Летась у жніўні была зладжаная вандроўка па беларускіх мясцінах, звязаных з жыццём нашай выдатнай Паэткі Ларысы Геніюш. Падчас вандроўкі пра Паэтку-пакутніцу расказвалі тыя, хто яе добра ведаў, хто з ёй сябраваў – Міхась Чарняўскі, Васіль Супрун, а таксама даследчык творчасці Паэткі – Міхась Скобла.

Таксама была здзейсненая паездка ў вёску Вішнева Валожынскага раёна да легендарнага ксяндза, перакладчыка Біблії і малітваў на кожны дзень на беларускую мову – Уладзіслава Чарняўскага. Сп. Уладзіславу быў перададзены адзін з пяці арыгінальных асобнікаў перакладу Імшалу, узятых у свой час для беларускіх духоўных патрэбаў з Вішнева – у Менск, Вільню, іншыя гарады і мястэчкі. І хоць пару асобнікаў перадаваліся Кс. Уладзіславам Чарняўскім у непрацяглае, часовае карыстанне, вяртанне Імшалу да свайго ўладальніка адбылося іншым шляхам... Усю важнасць падзеі вяртання разумееш, калі бачыш, як да гэтай богаслужбовай кнігі зноў дакранаюцца рукі ўбеленага сівізной ксяндза-перакладчыка...

Памятным стаўся мінулы год Кніжнага клуба ТБМ на сустрэчы. Пра гэты бок дзейнасці клуба досыць падрабязна пісала каля двух дзесяткаў перыядычных выданняў (у тым ліку і "Наша слова"). Таму не буду паўтарацца, але проста занчу, што гасцямі Кніжнага клуба мы былі шчаслівыя бачыць Янку Брыля і Дануту Бічэль, Артура Вольскага і Кастуся Тарасава, Уладзіміра Арлова і Анатоля Грыцкевіча, Эдуарда Акуліна і Андрэя Федарэнку, Васіля Сёмуху, Алеся Камоцкага і Міколу Хаўстовіча. Сустрэчы з Артурам Вольскім і Янкам Брылём былі задакументаваныя на відэастужку дзякуючы клопату мастака Ігара Марачкіна. Таксама, клопатам сяброў Кніжнага клуба, літаральна за дзень да часовага ад'езду ў ЗША Славаміра Адамовіча, з паэтам была зладжаная сустрэча.

Сапраўднай падзеяй у сёлетнім сакавіку сталася арганізацыя прэзентацыі кнігі "Дзяды" знакамітага беларускага (ці як казалі ў даўніну – ліцвінскага) Паэта Адама Міцкевіча. Варта нагадаць, што паэма "Дзяды" загучала цалкам па-беларуску дзякуючы перакладчыку Сержуку Мінскевічу. Будзем спадзявацца, што недалёкім часам адбудзецца поўнае духовае вяртанне нашага Паэта на родную Літву-Беларусь. Дасць Бог, незадоўга будуць знойдзеныя і цалкам беларускамоўныя творы Адама Міцкевіча, сведчанні пра якія пакінула гісторыя...

Надзвычай цікавай сталася і сустрэча сяброў Кніжнага клуба з калекцыянерам памятак менскай гісторыі Сп. Мускім Барысам. Расказ пра Менск і ягоныя таямніцы вельмі хораша быў дапоўнены вандроўкай па памятных мясцінах беларускай сталіцы.

Таксама Кніжным клубам ТБМ быў праведзены цэлы шэраг элітных, "клубных" сустрэч па тэмах: "Анталогіі беларускай паэзіі", "Бібліяграфія беларускай мемуарнай літаратуры", "Жыццё і творчасць Уладзіміра Караткевіча", "Бібліяграфія беларускай геральдыкі", "Паэзія Наталлі Арсенневай" і інш.

Апрача таго, засталося дадаць, што Кніжным клубам вялося ліставанне з зацікаўленымі па ўсёй Беларусі, распачата супрацоўніцтва з Гомельскім дзяржаўным універсітэтам па пошуку друкаваных твораў для складанай анталогіі паэтычных прысвячэнняў беларускай мове.

Здаецца, зроблена нямала, але, па вялікім рахунку, гэта толькі часцінка ад наяўных магчымасцяў у межах усёй Беларусі. І што цешыць: Кніжныя клубы Таварыства беларускай мовы пачалі стварацца ў іншых гарадах і мястэчках Беларусі. Сваё слова сказала Заслаўе. У добры шлях!

*Зміцер ЦЕХАНОВІЧ,*
*кіраўнік Кніжнага клуба ТБМ.*

## "Спаемства"

**Робім прыстойнымі мову і веды беларушчыны псіхалагічна сцвярджаемся, робім яшчэ шмат чаго. Туліцеся да нас, і Вам будзе добра. Даведкі праз тэл.: 235-80-96.**

**Панядзелак – серада з 18.00, аўторак – чацвер з 9.00.**

# Беларускі відэаклуб

Год таму, напачатку траўня 1999 г. у Таварыстве беларускай мовы імя Францішка Скарыны ўтварыўся Беларускі відэаклуб. Гэта была ініцыятыва моладзевай плыні ТБМ, мэта якой – данясенне да беларусаў відэа на іх роднай мове. Па-першае, гэта рабілася для тых суайчыннікаў, для каго іншыя мовы не сталі болей даступнымі (у тым ліку і расейская) і каму не стае роднай мовы шмат у якіх абсягах жыцця; па-другое, для тых, хто хоча вярнуцца да мовы сваіх продкаў: патрэцяе, гэта робіцца, каб прабудзіць у беларусаў, выхаваных у расейшчыне, любоў да роднай мовы.

Днём нараджэння лічыцца 5 траўня 1999 года, бо менавіта ў гэты дзень у сядзібе ТБМ быў зладжаны паказ першага відэафільма у перакладзе на беларускую мову "Пяты элемент". Дарэчы у гэты ж час фірма "Сотвар" упершыню пераклала на беларускую мову мультфільм – "Прыгажуня ў сонным лесе". Гэтыя і наступныя мультфільмы, перакладзеныя фірмай, ўвайшлі ў фільматэку Беларускага відэаклуба.

Пашырэнне беларускамоўнага відэа адбываецца у некалькіх кірунках: паказы, распаўсюджванне наяўнай прадукцыі і выпуск раней невыдаванай, пераклад замежных стужак. Важную ролю мае таксама і пашырэнне інфармацыі пра беларускамоўнае відэа. З гэтай мэтай Беларускі відэаклуб стварыў старонку ў Інтэрнэце па адрасе http://belvidea.cjb.net, а таксама выдае каталог беларускамоўнага відэа. Акрамя таго стала даецца інфармацыя ў прэсу.

Сярод выдадзенай прадукцыі акрамя згаднага былі і музычныя відэапраграмы ад фірмы "Ковчег" і ад Беларускай Музычнай Альтэрнатывы. Што да невыдаваных раней фільмаў, дык БВК пачаў распаўсюд замежнай стужкі "Ісус" і айчынных – "Салодкі яд кахання" і "Слёзы блуднага сына".

Першым мастацкім фільмам, які пераклаў БВК, быў "Пяты элемент". Пераклад рабіўся на энтузіязме і пры падтрымцы Беларускай Музычнай Альтэрнатывы. Пазней былі перакладзеныя фільмы "Страчаны свет: Юрскі парк-2" і "Маска". Аднак дагэтуль яны, на жаль, застаюцца недапрацаванымі і не распаўсюджваюцца, а толькі дэманструюцца ў відэазалах.

Беларускі відэаклуб у сваёй далейшай дзейнасці вырашыў арыентавацца на попыт гледачоў. І згодна з попытам было вырашана перакласці славуты фільм Мэла Гібсана "Адважнае сэрца". Гэта стала важнай падзеяй у культурным жыцці канца 1999 – пачатку 2000-га года ў Беларусі. Фільм атрымаў сапраўдны поспех. Арыентацыя на густы гледачоў будзе надалей асноўным чыннікам пры выбары стужак для перакладу. Таму сярод гледачоў заўсёдна праводзяцца апытанні.

Нядаўна БВК атрымаў грант ад Асамблеі Няўрадавых Арганізацыяў на выданне новых стужак. Сярод іх: відэазапіс першай і другой частак канцэрту "Вольныя танцы", замежныя фільмы "Матрыца", "Прыгажуня", "Бетховен", мультфільм "Кароль Леў".

Па-за гэтым грантам плануецца перакласці фільмы польскай вытворчасці "Агнём і мячом" і "Пан Тадэуш", падзеі якіх цесна звязаныя з беларускай гісторыяй. Таксама ў будучыні плануецца выдаць на відэа вядомыя айчынныя кінастужкі.

Што да такога кірунку дзейнасці, як дэманстрацыя фільмаў, дык беларускія відэазалы паўсталі таксама ў Жодзіне, Светлагорску, Мар'інай Горцы, Магілёве, Горадні і ў іншых гарадах Беларусі.

У планах БВК данясенне беларускамоўнага відэа да патэйцыйна зацікаўленых у ім рэгіянальных тэлекампаніяў і да школ (як добрага прыкладнога матэрыялу па беларускай мове).

БВК спадзяецца, што ў будучыні дасягне поўнай аператыўнасці ў данясенні да беларусаў сусветных кінанавінак, каб у іх не ўзнікла патрэбы глядзець фільм у перакладзе на яшчэ адну замежную мову толькі таму, што свайго перакладу доўга чакаць. Калі мы дасягнем такіх магчымасцяў, то кінакультура перастане быць чужой для носьбітаў беларускай мовы.

*Віталь СТАНІШЭЎСКІ,*
*кіраўнік Беларускага відэаклуба ТБМ.*



 







# Факты – рэч упартая

У сусветным дэмакратычным друку існуе непахіснае правіла: той, каго пакрытыкавалі ў газеце, мае права даць адказ на такой самай газетнай плошчы, якую заняў апанент. Я пішу гэта ў сувязі з тым, што ў 22-м нумары "Нашага слова" П. Сцяцко запоўніў аж паўтары паласы артыкулам "пра нормы літаратурнай мовы і пра тое, хто і што "узаконьвае"?". У артыкуле робіцца амбіцыйная, але беспаспяховая спроба абвергнуць хоць часцінку таго, што пісаў я на дзесяці старонках кніжкі "Дазнанні" пра моўнае эксперыментарства свайго калегі па працы П. Сцяцко. Спачатку я і не збіраўся адказваць свайму апаненту, бо выкладзеныя мною факты – рэч упартая і з імі наўрад ці магчыма спрачацца. Але некаторыя калегі (яны чыталі мае "Дазнанні" і памянёны артыкул і маглі лёгка супаставіць адно з другім) настойліва падбівалі мяне напісаць.

Асабліва падзейнічала на мяне вось што. 27 ліпеня ў вялізнай зале палаца "Юнацтва" сотні прадстаўнікоў дэмакратычных сіл Горадні адзначалі знакавую дату ў гісторыі Беларусі – 10-я ўгодкі Дэкларацыі аб суверэнітэце краіны. І ў прэзідыуме, дзе мне давялося сядзець, і ў калідоры ды вестыбюлі многія знаёмыя нагадвалі мне пра той жа артыкул. Нямала было і такіх, што чыталі толькі "Наша слова", а "Дазнанні" мае і не бачылі, толькі чулі пра іх. Тое самае, падумалася мне, адчуваюць і амаль усе іншыя чытачы "Нашага слова", бо "Дазнанні" (наклад 299 асобнікаў) дасталіся нямногім, а газету ж прачыталі 3 тысячы чалавек, а то і болей, але не маюць магчымасці дазнацца, на чыім жа баку праўда.

Мой апанент тройчы паўтарае аднойчы ўжытыя мною словы "калега па працы П. Сцяцко", іранізуючы ў падтэксце: як жа гэта я пасмеў замахнуцца на свайго калегу па працы? Душа не на месцы, калі бачыш, што вытвараюць з мовай – на дзяржаўным і недзяржаўным узроўні. У тым ліку і мой калега. Таму на адказ усплываюць у памяці словы старажытных грэкаў: "Платон мне сябра, а ісціна даражэйшая"..

Мой калега, не здолеўшы неяк інакш адмесці мае, як ён піша, "нападкі", абраў сдавуты прыём: лепшы спосаб абароны – нападзенне. Піша, што я "скрозь выступаю супраць новых слоў (ці адноўленых), "супраць усяго таго новага ў мове, што адлюстроўвае сучасная адраджэнская маўленчая практыка". Як выкладчык мовы, я імкнуся і павінен імкнуцца, каб маё маўленне, як і маўленне студэнтаў, якіх вучу, было эталонам літаратурнай мовы, а літаратурная мова – гэта, як засведчана ва ўсіх слоўніках, "унармаваная форма агульнанароднай мовы, пісьмовая і вусная нормы якой з'яўляюцца агульнаабавязковымі". А ўсё новае, што ўзнікае ў маўленчай практыцы беларусаў і знаходзіць адлюстраванне ў друку, я рэгулярна фіксую і час ад часу публікую; напрыклад, у "Родным слове" (№ 2 за 1999 г., с. 77-85), у "Настаўніцкай газеце" (22.04.1999г.). У кнізе "У слоўнікавую скарбонку" (1999) даў каля 400 слоў-неалагізмаў, фразеалагізмаў, прыказак, якія дагэтуль нікім не апісваліся: ***дэмакратызатар, членавоз, дземянцееўка, спадзеў, жарсць, досвед*** і г.д. Усе яны атрымліваюць нармальную, аб'ектыўную характарыстыку. Яна аніяк не падобная на той прыём, якім карыстаецца П. Сцяцко. Ён бы кожнаму з гэтых слоў прысвяціў асобную нататку пад прыкладна такімі адзначнымі, паспешлівымі загалоўкамі: "Не страсць – а жарсць", "Не вопыт – а досвед".

Мой калега піша: "Чаго толькі не прыдумляе І. Лепешаў, на якую фальсіфікацыю ён не ідзе?!" У другім месцы яшчэ раз паўтараецца пра фальсіфікацыю і "надта вольнае", "як яму захочацца", абыходжанне з фактамі. Ілюструецца гэта прыкладам з "Дазнанняў", дзе я гавару, што П.Сцяцко на аснове адзінакавага ўжывання слова ***агмень*** (дарэчы, не народнага, а прыдуманага В.Ластоўскім) будуе чарговую нататку. Мой апанент "выкрывае" мяне: маўляў, на аснове двух ужыванняў, а не аднаго. Апрача гэтага, спасылаючыся на свае "Праблемы лексічнага нармавання...", паказвае на слоўнік В. Ластоўскага, "Расейска-беларускі вайсковы слоўнік" С. Судніка і С. Чыслава, праводзіць прыклады з Р. Барадуліна і А.Дударава. Але ж, калі я пісаў пра агмень, тады яшчэ не выйшлі ў свет гэтыя "праблемы..." і карыстаўся я нататкай П. Сцяцко, змешчанай у "Нашым слове" (№42 за 1998 г.), дзе было толькі адно ўжыванне з "ЛіМа". Вось такія піра-гі...

Я заўсёды пішу з вялікай адказнасцю перад чытачом, ніколі не забываючыся пра дакладнасць сцвярджэнняў, фактаў. Фальсіфікацыяй займаюся не я, а мой апанент. Гэта ён звальвае з хворай галавы на здаровую. Часам крыніца сцвярджэнняў для яго – "радыё АБС" (адна баба сказала). Так, чытаем: Паводле сцверджанняў фразеолагаў, у "Фразеалагічным слоўніку" І. Лепешава да 30% фразем-маў, пашыраных на ўсёй Беларусі, кваліфікуюцца як дыялектныя (бо іх няма ў расейскай мове), а супольныя з расейскімі падаюцца як нарматыўныя, хоць фіксуюцца яны ў творах маладомых аўтараў".

Па-першае, так і просяцца пытанні: канкрэтна пра якіх "фразеолагаў" ідзе размова і дзе зафіксавана гэта "сцверджэнне"? Па-другое, у маім "Фразеалагічным слоўніку" няма ніводнага выразу з паметай "дыялектны", ды іх і не павінна быць у даведніку не дыялектнай, а літаратурнай мовы. У гэтым слоўніку з 5755 апісанных фразеалагізмаў толькі 19 апраўдана пазначаны паметай "абласны". Няхай чытач робіць выснову: хто ж фальсіфікуе?

Такім жа галаслоўным, скараспелым безадказным з'яўляецца абвінавачванне ў тым, што я выкарыстоўваю "небеларускую канструкцыю ў назвах нататкаў "Гвалт над мовай" ( замест "Гвалт з мовы"). Не, у нашай мове гвалт патрабуе творнага, а не роднага склону. Вось толькі некалькі прыкладаў з вялікага мноства: "і гэты гвалт над намі" (Я. Колас), "пасля сталецціяў гвалту над нашым цёмным чалавекам" (З. Бядуля), "нібы сатыра на нібы паэму – гвалт над формай" (К. Крапіва), "супраць гвалту над афіцэрамі" (І. Мележ), "гвалт над мовай, над усім здаровым сэнсам наогул" (Н. Гілевіч). Дык што ж гэта атрымліваецца? Выходзіць, апрача аднаго чалавека (П. Сцяцко), уся рота крочыць не ў нагу?

У шматлікіх этымалагічных слоўніках (М. Фасмера, М. Шанскага і інш.) словы ***воран, кляваць*** кваліфікуюцца як агульнаславянскія, а паводле П. Сцяцко, у беларускую мову яны трапілі не ад нашых далёкіх продкаў, а з "расейскай мовы". Ні ў кога з мовазнаўцаў не выклікаюць ніякага сумнення пададзеныя ў этымалагічных слоўніках звесткі пра тое, што ***сярдзіты, сердаваць*** паходзяць з агульнаславянскага ***сьрдь – "сэрца"***, і толькі П. Сцяцко, нібы валодаючы ісцінай у апошняй інстанцыі, сцвярджае, што ў беларускай мове гэтыя словы "не маюць дачыненняў да сэрца".

Мой апанент, нічуць не задумваючыся, піша, што, калі беларускую мову "ганьбілі некаторыя аўтары – уплывовыя лінгвісты – на старонках перыядычнага друку", я "ўхваляў непрыяцеляў беларускага слова". Дзе? Калі? Даў бы хоць якое-небудзь маленькае пацвярджэнне ці хаця б намёк на яго... Але адкуль яго возьмеш, калі не было такога. Праўду кажуць кітайцы: цяжка знайсці чорнага ката ў цёмным пакоі, асабліва калі яго там няма. Ні ў адной маёй публікацыі няма ні цытат з Маркса, Леніна, Сталіна, ні акафістаў у гонар кампартыі або бальшавіцкай рэвалюцыі, ні хваласпеваў беларускім перакладным слоўнікам ці захапления рускай мовай. Чаго няма, таго няма.

Кажуць: напісанае застаецца. І яшчэ: што напісана пяром, таго не высечаш і тапаром. Гэта не я, а П. Сцяцко пісаў, напрыклад, у часопісе "Полымя" (1977. № 4. С.241): "Вялікі Кастрычнік адкрыў для беларускага народу, як і для іншых народаў нашай краіны, небывалыя магчымасці для развіцця навукі, нацыянальнай культуры і мовы... найбольшую каштоўнасць на сённяшні дзень з перакладных слоўнікаў маюць акадэмічныя "Руска-беларускі слоўнік" (1953) пад рэдакцыяй Я.Коласа, П. Глебкі і К. Крапівы і "Беларуска-рускі слоўнік" (1962) пад рэдакцыяй К. Крапівы". Не я, а П. Сцяцко не аднойчы спяваў асанну "слаўнаму 60-годдзю БССР і Кампартыі Беларусі", прыпісваў усе лексікаграфічныя поспехі "Вялікаму Кастрычніку, які... даў неабмежаваны прастор для росквіту беларускай мовы, якая ў савецкі час стала раўнапраўнай сярод іншых моў народаў СССР". Не я, а П. Сцяцко, узначальваючы ў Гомельскім універсітэце кафедру рускага, агульнага і славянскага мовазнаўства, у 1985 годзе (пачалася ўжо гарбачоўская перабудова) апублікаваў артыкул "Русский язык – неиссякаемый источник обогощения и развития языков народов СССР". Супастаўляеш сённяшнія і ранейшыя погляды П. Сцяцко і мусіш толькі разводзіць рукамі ды паціскаць плячамі: "Гэта ж трэба так умець..."

У артыкуле П. Сцяцко гаворыцца, нібыта я "бязлітасна бэсціў Зміцера Санько за тое, што той у сваім даведніку "Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем" (1991) падаў адметна- беларускія адпаведнікі да расейскіх..." Але гэта няпраўда. Ніякае бэшчанне, ды яшчэ бязлітаснае, у маёй рэцэнзіі і не начавала. Тут разважліва і аргументавана паказаны некаторыя істотныя хібы даведніка, дарэчы, аўтар якога не філолаг, а кандыдат біялагічных навук.

Відаць, на думку П. Сцяцко, водгукі на кнігі павінны быць толькі хвалебныя. Таму ён так непрыязна і хваравіта ўспрыняў маю слушную крытыку яго насільнага ўсёахопнага ўмяшання ў маўленчую практыку, выказаў гэта як маё імкненне "зняславіць калегу па працы", "абняславіць", "выклікаць недавер да яго працаў". У "Дазнаннях", паводле П. Сцяцко, "бэсціцца" яго працы, робяцца "нападкі І. Лепешава на працы калегі па працы".

У процівагу гэтаму скрупулёзна пералічваюцца шэсць цалкам станоўчых рэцэнзій на кнігі і артыкулы П. Сцяцко, гаворыцца пра ажно адзінаццаць юбілейных публікацый, прысвечаных ягоным "70-ым угодкам". Паведамляецца, што адна з іх мае назву "Рыцар вяльможнага слова", другая – "Карыфей айчыннага мовазнаўства". Ці адчуваеце ніякаватасць ад такой інфармацыі?..

Не шкадуючы эпітэтаў, ён трох рэцэнзентаў называе "знакамітымі", аднаго пісьменніка – "адмысловым знаўцам мовы", яшчэ некалькіх – "знанымі". А сам, як бачым, - "рыцар", "карыфей". Ёсць цытата з рэцэнзіі пра неабходнасць кнігі П. Сцяцко перавыдаць стотысячным накладам". Сам аўтар паведамляе, што "выдавецкі аддзел Гарадзенскага універсітэта мае некалькі сотняў замоваў на згаданыя мае кнігі". Мне ж у выдавецкім аддзеле сказалі, што няма ніводнай замовы, што, можа, асабіста яму і прысылаюць.

Мой апанент спасылаецца на рэцэнзента, які ацэньвае "Праблемы нормы...", як "праект удасканаленя мовы". Калі гэтыя ягоныя "напрацоўкі" яшчэ не ўзаконеныя, а ўсяго толькі праект, дык чаму ж яго нельга абмяркоўваць, як і ўсякія іншыя праекты, якія павінны, паводле Б. Тарашкевіча, "прайсці праз публічнае сіта грамадзкай і навуковай крытыкі перш, чым маюць быць уведзены ў жыццё аўтарытэтам культурных установ".

Калі гэта толькі праект, то чаму ж яго аўтар выкладае на філфаку гэты праект, як спецкурс пра "нармаванне савецкага варыянту беларускай мовы", і патрабуе, каб студэнты ў сваёй маўленчай практыцы кіраваліся толькі ягонымі (адзіна правільнымі!) устаноўкамі? Дарэчы, нядаўна 18 з 72-х студэнтаў не змаглі паспяхова здаць экзамен па "нармаванні савецкага варыянту" і паўгода не будуць атрымліваць стыпендыю.

Калі гэта толькі праект, дык чаму аўтар ужо сёння рашуча ўкараняе свае напрацоўкі ў практыку, папраўляе студэнтаў і выкладчыкаў, калі яны гавораць ці пішуць без уліку гэтых напрацовак? Чаму аўтар усюды піша паводле гэтага неўзаконенага праекту? Праўда, нядаўна "Настаўніцкая газета", публікуючы артыкул П. Сцяцко, зрабіла ўрэзку з паведамленнем, што рэдакцыя мусіла прывесці напісанне "выкарыстаных аўтарам лексем у адпаведнасці з існуючымі нормамі (не ***дзвюхмоўе***, а ***двухмоўе***, не ***дасканаліць***, а ***ўдасканальваць***, не ***моваў***, а ***моў*** і інш.)". Гаворыцца ў дадатку, што рэдакцыя кіравалася "найперш прынцыпам цывілізаванага грамадства: закон вышэй за ўсё. Правілы дарожнага руху, можа, таксама не ўсім падабаюцца, але іх абавязкова выконваюць усе".

Што да мяне, то я цалкам салідарны з выказваннем Э. Ялугіна, былога рэдактара "Нашага слова". Ён, адказваючы на пытанне карэспандэнта пра сённяшнюю моўную сітуацыю, пра адносіны да тарашкевіцы і наркомаўкі, зазначыў: "Я за захаванне цяперашняга правапісу, які лічу класічным. Нельга, на мой погляд, уздымаць гэта пытанне, каб не падзяліць нацыю. Гэтым могуць займацца і правакатары" ("Наша слова" 29. 03. 2000г.).

П. Сцяцко завяршае свой артыкул запэўненнем, што яго праца "на беларускае нацыянальна-культурнае адраджэнне" будзе працягвацца "і ніякім "дазнанням" яе не спыніць!" Здаецца, ён страціў адчуванне часу і прасторы, зацыкліўся на тым перыядзе пачатку 90-х гадоў, калі пачалося было сапраўднае адраджэнне Бацькаўшчыны, нідзе ў сваіх публікацыях ніводным слаўцом не выказвае адмоўнага стаўлення да дзейнасці сучасных улад, якія пасля двух вядомых рэферэндумаў катастрафічна, як ніколі, звузілі сферу прымянення беларускай мовы і паставілі яе на мяжу выміранне. Ён як бы лунае ў паднябессі і ніяк не хоча спусціцца на зямлю, убачыць і пачуць, "якое гадства дзеецца на беларускіх гонях: паспеўшых абнадзеіцца назад у рабства гоняць" (Н. Гілевіч).

Сёння над нашым суверэнітэтам вісіць дамоклаў меч, маячыць рэальная пагроза страціць дзяржаўную незалежнасць у выніку далучэння Беларусі да Расіі, ператварэння нашай краіны ў правінцыю Расійскай імперыі. Што чакае нашу мову ў такім разе? Канчатковы заняпад і знікненне, ператварэнне з жывой мовы ў мёртвую? Выпрамляць індывідуальна-партызанскім спосабам і "абеларушваць" мову ў сённяшніх крайне неспрыяльных для яе варунках – гэта толькі на шкоду ёй, але ніяк не на карысць. Гэта ёй патрэбна, як мёртваму прыпаркі.

Справа нашага жыцця – абарона суверэнітэту Беларусі!

На заканчэнне паўтару нядаўна сказаныя словы Васіля Быкава: "Настаў час.., калі нельга развіваць культуру... Важна хоць бы захаваць тое, што напрацавана ранейшымі пакаленнямі, закансерваваць яго (у тым ліку і мову), як кансервуюць руіны старых замкаў і цэркваў. Сапраўды, культура падобна да евангельскага зерня і павінна памерці, каб уваскрэснуць зноў..."

***Іван ЛЕПЕШАЎ,***
***доктар філалагічных навук,***
***прафесар Гарадзенскага***
***дзяржаўнага універсітэта***
***імя Янкі Купалы.***

 

# Давайце смяяцца па-беларуску



Вядомы беларускі паэт, сатырык – гумарыст Мікола Вяршынін нядаўна сустрэў сваё 60-годдзе. Чалавек нялёгкага лёсу, былы дзетдомавец, завадскі інжынер, ён абраў нялёгкі і рэдкі літаратурны жанр. Пісаць і друкавацца пачаў падчас вайсковай службы. Піша байкі, фельетоны, гумарэскі, мініяцюры, каламбуры, эпіграмы на важныя і вострыя жыццёвыя тэмы. Кола тэм усяляк імкнецца пашыраць. Не абыходзіць вострых вуглоў, і ў той жа час весела усміхаецца над усім смешным і недарэчным.

За чатыры дзесяцігоддзі плённай творчай працы выдаў 11 уласных кніжак, яго творы ўвайшлі ў 21 калектыўны зборнік сатырычнай паэзіі і прозы. У выдавецтве "Мастацкая літаратура" рыхтуецца да выхаду яго новы зборнік пад назвай "На сваю галаву".

Мы шчыра віншуем юбіляра з яго слаўнай датай, жадаем яму вялікіх жыццёвых і творчых поспехаў, а самі паспрабуем разам са спадаром Вяршыніным пачаць новую рубрыку ў "Нашым слове" --"Давайце смяяцца па-беларуску". А раптам рука спадара Міколы будзе лёгкай.

### МАЛАДЫ ПЕНСІЯНЕР
(гумарэска)

Ну, дажыўся, дагуляўся,
Як мне жыць ужо цяпер?
Сам не веру – і сям'я ўся –
Што вось я – пенсіянер.

А сябе не адчуваю
Я на гэтыя гады,
Бо ва ўсім я паспяваю,
Быццам хлопец малады.

Барада шчэ не сівая,
Вусы чорныя зусім.
Да ўсяго імпэт я маю,
І на ўсё хапае сіл.

І жанчыны, і дзяўчаты
Дружна кажуць, вер – не вер:
-Ты такі ў нас зухаваты!
Ты – амаль што піянер.

Як хачу, дык так і выйдзе:
Працаваць, а не гуляць.
Высплюся ж, як трэба, з тыдзень,
Дык даюць мне сорак пяць.

Я не ведаю аптэкі,
У бальніцы рэдка быў.
Жарт, усмешка – вось дык лекі!
Так здароўе я здабыў.

Сам сябе мацую з рання
Кожны дзень я зноў і зноў.
Фіззарадка, абціранне,
А нярэдка і любоў.

І ніколі я не гнуўся
Ад бяды, ад цяжкіх спраў.
І ў гарэлку не ўцягнуўся,
Хоць нярэдка каштаваў.

Не звяло мяне курэнне,
Не сагнуўся я ў дугу.
Не гуляў да адурэння,
І пакуль што ўсё магу.

Думкі сумныя забудзьце,
Справы дрэнныя – далоў!
Маладымі вечна будзьце,
Як я ў шэсцьдзесят гадоў!

### АХВЯРА ХАРАКТАРУ
(байка)

Двару патрэбен вартаўнік,
Каб добры меў і зрок, і слых.
Раптоўна злодзей каб не ўзнік,
Каб не пускаў у дом чужых.

Дварнягу кормяць ад душы,
І лашчыць жа яго сям'я,
Дык лепш вартуй, мацней брашы.
Ёсць будка цёплая свая.

Звычайна і бывае так,
Ды гэты быў зусім дурны.
Пасціць, пасля наесца ў смак –
Гаспадара рве за штаны.

І з часам усё больш дурэў:
Ганяў свіней, ганяў курэй.
Палохаў нават і дзяцей,
Кусаць гаспадароў хацеў.

А гаспадар што ні рабіў,
Усё было наадварот.
Ён псіну гэтую прыбіў.
Са злосці выкінуў за плот.

* * *

Калі дурны – умер свой псіх,
Не кідайся хоць на сваіх.

### СВАЕ – СВАЙМУ
(байка)

У лесе кожны дзікі звер
Каб не хадзіў пануры,
Рашылі жыхары: - Цяпер
Збудуем Дом культуры.

Бярвенне, дошкі ёсць у нас,
Цэмент патрэбен вельмі.
Дастанем – і ў рабочы час
У лапы возьмем кельмы.

На працу кожны можа стаць
У строй рабочы недзе.
А вось цэмент хутчэй дастаць
Давай пашлём Мядзведзя.

Паехаў той і доўга быў,
Як быццам справу рухаў.
Аднак нічога не зрабіў,
Няма ніякіх зрухаў.

-Усё, што трэба, я рабіў,
Настырнасці меў многа.
Ламаў сталы і морды біў –
Не памагло нічога.

... Што ж, сіла не дапамагла –
Мо хітрасць дапаможа.
Ліса вось хітраю была,
Уладзіць справу зможа.

Але вярнулася яна
З пустымі ўсё ж рукамі:
-Я шчыравала мо да дня,
Вы зразумейце самі!

Я хітравала, як магла,
Ды дзе знайсці мне выйсце?
Сябе начальству аддала,
А не было карысці.

...І сілай, хітрасцю не ўзяць,
А план "гарыць", хоць рэжце.
І выпашылі ўсе пасласць
Асла яны, нарэшце.

Той падарункаў не вазіў,
Вярнуўся сам шчаслівы.
Вагон цэменту адгрузіў
Асёл усім на дзіва.

-Звярнуўся я да іх на "ты",
Кантакт мы добры мелі,
Бо там сядзяць мае браты –
Мяне і зразумелі.

### ЯК МІЛЬЁНШЧЫКАМ Я СТАЎ
(гумарэска)

Час вясёлы – невясёлы
Быў раней, меў свой размах.
Гарады тады і сёлы
На малых жылі грашах.

Мець мільённыя прыбыткі
Мог завод, або калгас.
Дзеля ўласнага ж ужытку
Не было тых сум у нас.

А валодаць тым мільёнам
Чалавек мог толькі ў сне.
Бо даход той - незаконны,
Значыць, кара не міне.

І на сто рублёў жылі мы –
Скажам, не як каралі,
Ды не йшлі ўсё ж святы міма,
Грошы ў нас заўжды былі.

Новы час дыктуе змены –
Больш заробку не прасі!
Зарабляць шмат сталі ўсе мы –
Хоць мяшок з сабой насі.

Весяліся, люд працоўны!
Што капейкі і рублі?
Нам налічваюць мільёны –
Збыцца нашы сны змаглі.

Ды раскоша ўжо і сала,
Каўбаса – не па грашах.
Недаступнай рыба стала,
Цэны б'юць нам па зубах.

Мэбля, вопратка, абутак –
Павышэнне на чарзе.
І ва ўсіх на тварах смутак,
Бо інфляцыя грызе.

Адыходжу ад адчаю
Я з палучкі дзень-другі,
А пасля зноў пазычаю,
Так растуць мае даўгі.

Ды не ўсе ж бядуюць, мусіць,
У суровы гэты час.
"Новых" рускіх, беларусаў –
Іх замала сярод нас.

А далей што будзе з намі?
Мы ледзь ходзім, ледзь стаім.
І з парванымі штанамі –
Я з мільёнам са сваім.




*"Даная і Напалеон" -- адна з апошніх кніжак Міколы Вяршыніна*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

**Заснавальнік:** ТБМ імя Францішка Скарыны.
**Пасведчанне аб рэгістрацыі:** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
**Адрас рэдакцыі:** 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
**Адрас для паштовых адпраўленняў:** 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
**E-mail:** ns@lida1.lingvo.grodno.by



*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 25. 09. 2000 г
Наклад 2700 асобнікаў. Замова № 2459
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 171 руб., 3 мес.- 513 руб.
*Кошт у розніцу:* 40 руб.